№ 1 студзень 2012 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

**_Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі_**
**_Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны_**

***Няўжо настане час І хлопчык светла-русы***
***Напіша сумны сказ: "Памерлі беларусы..."?***
*Мікола Шабовіч*

## У НУМАРЫ:

# АСНОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПАСТАЎСКАЙ РАЁННАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ТБМ ЗА 2011 ГОД

СТУДЗЕНЬ

Публікацыі артыкулаў у газетах “Пастаўскі край” і “ЛіМ” да 70 годдзя з дня нараджэння Вячаслава Міхасёнка, паэта, краязнаўцы, настаўніка, ураджэнца в. Міськія

Абвяшчэнне літаратурнага конкурсу да Сусветнага дня роднай мовы

ЛЮТЫ

Падрыхтоўка арыгінал-макетаў кніжак-размалёвак для малых дзетак з серыі “Казкі нашага краю” (У. Дубоўка “Як чалавек гарох пільнаваў”, І. Пракаповіч “Казка пра ваяўнічага камара”, І. Атрахімовіч “Як мышанё з катом пасварылася”)

Падрыхтоўка арыгінал-макетаў бюлетэня раённай арганізацыі ТБМ “Шыпшына”

Выраб дыпломаў для ўзнагароджання арганізацый і асоб

Напісанне артыкула да 60 годдзя з дня нараджэння Януся Мальца, паэта, парадыста, гумарыста, ураджэнца в. Хрыстова

Імша ў касцёле Св Антонія Падуанскага за беларускую мову

Падвядзенне вынікаў літаратурнага конкурсу.

Міжнародны Дзень роднай мовы.

Уручэнне дыпломаў ТБМ арганізацыям



*Правядзенне беларускай дыктоўкі.*

САКАВІК

Выданне бюлетэня ТБМ “Шыпшына”

Выданне кніжак-размалёвак для малых дзетак з серыі “Казкі нашага краю”



*Уручэнне дыплома ТБМ рэдакцыі газеты «Пастаўскі край»*

Правядзенне краязнаўчых віктарын са школьнікамі

Публікацыя ў газ “Пастаўскі край” артыкула “Абуджаныя беларускім духам” па выніках літаратурнага конкурсу

Паездка ў Гуту. Выступленне перад настаўнікамі і вучнямі. Запіс успамінаў Л. Багаткевіч у в. Ласіца

Паездка ў Навадруцк-Парыж. Выступленне перад настаўнікамі і вучнямі.

Паездка ў вёску Казлоўшчына. Выступленне перад настаўнікамі і вучнямі. Запіс успамінаў А. Вештарта у в. Гаўрылавічы

Святкаванне Дня Волі. Даклады "БНР" (Т. Храпавіцкая), "Ларыса Геніюш" (Л. Сяменас), "Беларускі святар Аляксандр Коўш" (І. Пракаповіч)

Майстар-клас мастака І. Атрахімовіча

Прэзентацыя кніг І. Пракаповіча "Пошукі забытага шляху", "За смугою мінулых часоў", "Парфорснае паляванне ў Паставах" у чытальнай зале раённай бібліятэкі.

КРАСАВІК

Вечарына беларускага гумару

Віншаванне А. Нафрановіча, беларускага пісьменніка, з 75-годдзем

ТРАВЕНЬ

Выступленне перад вучнямі Лынтупскай школы-сад



Публікацыі артыкула "Назвы нашых вёсак" у газетах "Пастаўскі край" і "Краязнаўчая газета"

ЧЭРВЕНЬ

Паездка ў Бычкі. Удзел у мерапрыемствах да Дня нараджэння В. Быкава

Удзел у культурніцкай акцыі "Мая сям'я, мае вытокі, мой род…" на возеры Дубок (клуб "Сучаснік" пры Пастаўскай цэнтральнай бібліятэцы)

ЛІПЕНЬ

Дубоўкавы чытанні. Акцыя "Шыпшына".

Паездка ў Германавічы. Удзел у краязнаўчай канферэнцыі. Выданне матэрыялаў канферэнцыі.

Выданне Шыпшыны №№ 6-7 .

ЖНІВЕНЬ

Агульны сход на сядзібе ТБМ (вул Гагарына)

Выданне "Шыпшыны" № 8

Краязнаўчая вандроўка ТБМ Ляхаўшчына-Сарокі-Казлоўшчына-Асінагарадок



*Удзельнікі вандроўка каля крыніцы Грамякі*

ВЕРАСЕНЬ

Удзел у Дні беларускага пісьменства ў Ганцавічах

Выданне "Шыпшыны"№ 9

Публікацыя ў газеце "Пастаўскі край" "Ганцавічы ўразілі"

Выступы ў Юнькаўскай і Варапаеўскай бібліятэках

Выступы ў Мулярскай і Камайскай школах

Публікацыя артыкула ў газеце "Пастаўскі край" "Ну а я, браткі, з Хрыстова" (пра Януся Мальца)
Сустрэчы на сядзібе ТБМ

КАСТРЫЧНІК



Выступ у Лынтупскай бібліятэцы

Размяшчэнне бюлетэня "Шыпшына" на сайце "Камунікат.орг"
Выданне "Шыпшыны" № 10

Удзел у II з'ездзе Саюзу пісьменнікаў Беларусі

Сустрэчы на сядзібе ТБМ

Удзел у XI з'ездзе ТБМ

ЛІСТАПАД
Выданне "Шыпшыны" №11

Сустрэчы на сядзібе ТБМ

СНЕЖАНЬ

Літаратурныя чытанні па творчасці М. Багдановіча

Запіс на радыё "Мой Багдановіч"

Літаратурна-мастацкая вечарына да 120-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча у Раённым доме культуры




Праграма на тэлеканале "Паставы-ТВ" "120-годдзю М.Багдановіча прысвячаецца..."

Урачыстая імша-падзяка М. Багдановічу

Літаратурная вечарына. Прэзентацыі кнігі І. Пракаповіча "Снежны вэлюм шыпшыны" і дыска мультымедыйных прэзентацый "Чароўны край –Пастаўшчына". Падвядзенне вынікаў літаратурнага конкурсу.

Выступ у бібліятэцы Пастаўскага прафесійнага каледжа



*На вечарыне М. Багдановіча ў раённым Доме культуры*

## «ПРОВИНЦИАЛЬНЫЙ РУССКИЙ ГОРОДИШКО»

Мы ўжо прывыклі да таго, што Паставы становяцца адным з важных турыстычных цэнтраў Беларусі. Бадай кожны дзень у цэнтры горада можна ўбачыць аўтобусы з аматарамі падарожжаў і экскурсій. Мы ведаем, што горад наш прыгожы, мае цікавую гісторыю, грунтоўныя культурныя традыцыі. І ганарымся гэтым. Але ж… краязнаўчы музей і дом рамёстваў “Стары млын”. Паставы бліжэйшым часам могуць атрымаць статус культурнай сталіцы Беларусі. Ды ў нас жа культурнае жыццё б’е як пастаўскі фантан!.. І тут – “провинциальный русский городишко”. “Абідна”, як кажуць некаторыя з нас.

Але, разважыўшы, паспрабаваў паглядзець на наш горад вачыма іншаземца, якога прывезлі да нас з экскурсіяй на нейкую гадзіну і які сюды, можа, больш ніколі не патрапіць. Што ж ён убачыць?



*Пастаўская плошча: фантанчык, пальма, сцяжкі...*
*А дзе нацыянальны каларыт і тутэйшая адметнасць?*

Не так даўно выпадкова на плошчы пачуў размову групы турыстаў, верагодна, расіян, якія абменьваліся ўражаннямі ад першага знаёмства з нашым горадам. І адзін з іх тады сказаў: “Поставы – это обычный провинциальный русский городишко”. І яго калегі з гэтым пагадзіліся. А мне стала крыўдна ад таго, што госці так прынізілі наш горад. У нас жа праводзяцца міжнародныя фестывалі “Звіняць цымбалы і гармонік”, у нас жа ёсць сядзіба фальклорных персанажаў на чале з Зюзям Паазёрскім, у нас жа прайшло рэспубліканскае Свята беларускага пісьменства, у нас жа ёсць

На ўездзе ў горад яго прывітае рускамоўная шыльда “Поставы”, на плошчы ў вочы кінецца помнік “вождю мирового пролетариата”, помнік і алея загінуўшым у час Вялікай Айчыннай вайны з надпісамі па-руску, а таксама яркія шыльды «Культтовары”, кинотеатр “Родина”, универмаг “Омега”, универсам “Центральный”.

Сітуацыю ратуюць хіба шыльды “Рэстаран Світанак”, “Кафэ Паазер’е”, “Аптэка” ды “Прыгажуня”, іншыя ж беларускамоўныя назвы губляюцца сярод рускамоўных. І ніякіх згадак ні пра фестывалі, ні пра Свята беларускага

пісьменства. Ды хоць бы Зюзя дзе-небудзь быў намаляваны…

Але гэта ў цэнтры. А як выглядае сітуацыя воддаль ад плошчы?

Сябры пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ правялі маніторынг назваў на галоўных вуліцах Паставаў: Чырвонаармейскай (былой Лучайскай), Савецкай (былой Віленскай), 17 верасня (былой Задзеўскай) і Ленінскай (былой Браслаўскай) з мэтай вызначэння



суадносін паміж назвамі на беларускай, рускай, англійскай і іншых мовах. Вынікі абследавання, а запісваліся ўсе назвы, якія траплялiся на вуліцах (магазіны, установы, прадпрыемствы, рэкламныя шыльды, банеры і інш.), аказаліся больш сумнымі і трывожнымі, чым чакалася. Што атрымалася? Так, на вуліцы Чырвонаармейскай з 68 назваў толькі 10 беларускамоўныя, прычым са 159 дамоў толькі на адным (№98) вуліца напісана па-беларуску. У 5-м гарадку з 38 назваў толькі 6 беларускамоўных. Па вуліцы Ленінскай з 43-х назваў беларускамоўных таксама толькі 6. Па вуліцы Зялёнай і 17 верасня (разам) адпаведна 38 і 7. Па Савецкай – 59 і 4. На плошчы Леніна з агульнай колькасці назваў 44 аж 13 з'яўляюцца беларускамоўнымі, прычым, з 25 дамоў назва плошчы напісана па-беларуску толькі на двух - №7а, №9а.

Такім чынам, агулам (без уліку шыльдаў з назвамі вуліц) налічваецца 290 назваў, з якіх беларускамоўных усяго 46, што складае толькі 16%.

Гэтыя лічбы, як лакмусавая паперка, паказваюць усю сапраўдную "глыбіню" нашага патрыятызму, нашых адносінаў да роднай мовы, да нашай беларускай культуры. Так, можна шмат гаварыць пра любоў да радзімы, да народа, пра неабходнасць шанаваць сваё крэўнае, роднае, але калі словы не пацвярджаюцца справамі, то яны – проста непатрэбнае здрыгненне паветра.

У выніку штучных змен толькі 6 вуліц з забудовы 1939 года захавалі свае гістарычныя найменні, бо былі палітычна-нейтральнымі: Зарэчная, Школьная, Чыгуначная (Каляёвая), Паркавая, Ціхая, Дварцовая (Вакзальная). Затое большая група назваў астатніх вуліц – гэта або словы-сімвалы рэвалюцыйна-савецкай тэматыкі (Кастрычніцкая, Першамайская, Пралетарская, Камсамольская і інш.), або вытворчай (Завадская з 2 Завадскімі завулкамі, Камунальная, Кааператыўная, Меліяратыўная і інш.), або звязаны з прозвішчамі людзей (іх найбольш – 30). З гэтых трыццаці назваў 10 утворана ў гонар удзельнікаў II сусветнай вайны, прычым толькі 5 з іх звязаны з Пастаўшчынай, 8 – дзеячаў Кастрычніцкай рэвалюцыі (1 з Пастаўшчыны), 10 пісьменнікаў (6 рускіх і 4 беларускіх) і 2 касманаўты. Назваў, якія б адлюстроўвалі прыродную і гістарычную самабытнасць нашага краю, амаль не засталося.

Здаецца, надышоў час усім нам, жыхарам Пастаўшчыны, крытычна паглядзець на наша бліжэйшае вакольнае асяроддзе ды паспрабаваць зрабіць так, каб Паставы набылі адметнае беларускае аблічча і ў назвах вуліцаў, і ў архітэктуры вялікіх і малых форм, і ў шыльдах крам, і ў банерах і рэкламе. І тады ўжо не прагучыць больш з вуснаў гасцей зневажальнае "провинциальный русский городишко"…

І. М. Пракаповіч

## МАРЫНА КАВАЛЁНАК



Нарадзілася 3 лютага 1974 года ў вёсцы Райстанішкі Казянскага сельсавета Браслаўскага раёна ў сям'і калгаснікаў. Вучылася ў Казянскай СШ, пазней – у ПТВ-29 Віцебска, дзе атрымала прафесію раскройшчык-швачка. Зараз жыве ў Паставах, працуе ў швейным атэлье КУП "Пастаўскі РКБА".

Вершы піша са школьных гадоў. З 1999 года – удзельніца літаратурнага аб'яднання "Ветразь надзеі", што ў г.п. Опса (кіраўнік – Т. Крумплеўская). Аўтар двух зборнікаў вершаў: "Весенний" і "Мелодия рассвета". Творы друкаваліся ў газетах "Браслаўская звязда", "Вечерний Витебск", часопісе "Алеся", гучалі на абласным радыё.

### *СЛОЎНІК*

*Я паміж кніг шукаю зноў*
*Адзіны слоўнік цёплых слоў.*
*Пачаў складаць у нейкі век*
*Яго дабрэйшы чалавек.*
*Ён сонца, неба, зорак ззянне,*
*Любоў, пяшчоту і каханне*
*Адлюстраваў у пэўных словах*
*І запісаў на розных мовах.*
*Усе краіны абышоўшы,*
*Той слоўнік станавіўся большы,*
*Бо хто цяпло ў душы спазнаў,*
*У слоўнік словы дакладаў.*
*Каб сэрцам к сэрцу дакранацца,*
*Ім людзі сталі карыстацца:*
*І пры сустрэчах, і ў растанні,*
*Сваім сябрам, сваім каханым*
*Шукалі словы, гаварылі,*
*Нібыта кветачкі дарылі…*
*Мне б слоўнік гэты адшукаць.*
*Вам словы цёплыя сказаць.*

### *ШЭРЫ КАЛМЫК*

*Ціхая раніца. Колер ружовы*
*Сярод тумана на ўсходзе ўзнік.*
*Раптам у садзе падае яблык,*
*Сокам наліты "Шэры калмык".*
*Скочыўшы долу па тонкіх галінках,*
*Ў белай траве пакаціўся і знік.*
*Падае яблычак – восені сведка,*
*З бокам ружовым "Шэры калмык".*
*"Шэры калмык" я маленечкай знала,*
*Мабыць, таму не ідзе з галавы:*
*Яблыкі спелыя ў кошык збірае*
*Дзесьці ў садзе мой бацька стары.*

*Птушкі па вясне звіваюць гнёзды,*
*Палачкі, галінкі – рад у рад,*
*Каб у хатках цёплых, моцных, добрых*
*Жыць, спяваць і песціць птушанят…*

### *БЕЗ ПЕСНІ*

*Не паспею я вочы адкрыць і ўстаць–*
*Словы песьні якойсьці ў думках гучаць.*
*Не ўмею спяваць ні паў-гу, ні гу-гу,*
*А без песні ж хвілінкі пражыць не магу.*

## ДЗЕ ТЫ, БЕЛАРУСЬ?

Ад нас хаваюць нашу Беларусь. Хаваюць за рускамоўнымі шыльдамі вуліц, якія носяць імёны расійскіх дзеячоў, таптаўшых нашу зямлю і забіваўшых лепшых яе сыноў і дачок. Хаваюць у рускамоўных школах, дзе беларускасць прынізілі да разраду трэцяй катэгорыі. Яе хаваюць нават за нашымі імёнамі, перарobленымі на расійскі лад: быў Юрась, стаў Юрый, быў Міхась, стаў Міхаіл. Хаваюць за рускамоўнымі газетамі і кнігамі, радыё і тэлебачаннем.

Так, Беларусь схаваная, яе ледзь бачна, амаль не бачна. Ты не бачыш, адчуваеш нейкім трэцім вокам, што яна ёсць. Яна пачынае табе сніцца. І ты вырашаеш знайсці Беларусь. Ты ператвараешся ў сапраўднага археолага: шукаеш на зямлі і пад зямлёй, у архівах, бібліятэках, кнігах, аповедах людзей, вядзеш даследаванні, вывучаеш мову. Пра мову трэба сказаць асобна. Мова адкрывае цэлы сусвет, амаль незнаёмы, дзіўны, чароўны. Паступова пачынаеш адкрываць для сябе Беларусь. Не калгасна-селектарную, а гераічную, смелую, інтэлектуальную, авантурную. Яна сапраўды ёсць такая Беларусь. Ты бяжыш як мага хутчэй, каб распавесці пра сваю знаходку знаёмым і сябрам. А ў адказ табе паціскаюць плячыма: ну ёсць і хай сабе, ад гэтага больш грошай, ці здароўя не стане.

Ты застаешся адзін на адзін са сваёй Беларуссю. Яна пячэ ў сэрцы, рэжа, крывавіць, перашкаджае радавацца жыццю. Рашэнне прыходзіць само: трэба выкінуць з сэрца Беларусь і жыць як усе спакойна, памяркоўна. Але гэта няпроста, таму што Беларусь і ты сталі адным цэлым: яна ўрасла ў сэрца, яна цячэ ў крыві, яна завалодала розумам. Выкінуць з сэрца Беларусь азначае самагубства. Ты



М.Селяшчук. "Дарога дадому".

выходзіш у ноч і з глыбінь душы вырываецца: "Беларусь, дзе ты!?" А ў адказ чуеш ціхае:"Я тут, братка...".

Гарачая хваля радасці, захаплення, гонару разліваецца па целе. Я не адзін, нехта яшчэ пакутуе і шукае Беларусь. Мы разам! Мы –Беларусь! Мы пераможам!

*Людміла Сяменас*



**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*